**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 08 (829) 25 лютага 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by

Люты паказвае свой нораў!


*Фота joyreactor.cc*



**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа №16123080021, узбуджаная 01.02.2016 па ч.2 арт.317 КК Рэспублікі Беларусь па факце ДТЗ, якое адбылося 04.11.2015 каля 18 гадзін побач з прыпынкам грамадскага транспарта ў мікрараёне МКК каля дома №125 па вул. Леніна ў г.Глыбокае.**

## Шукаем сведкаў дарожна-транспартнага здарэння

**Інфармацыя пра ДТЗ:**

Дата здарэння – 04.11.2015;

Час здарэння – каля 18 гадзін;

**Месца здарэння** – мікрараён МКК, вул.Леніна ў г.Глыбокае, пешаходны пераход каля прыпынку грамадскага транспарта побач з домам №125.

**Акалічнасці ДТЗ:** наезд аўтамабілем BMW-318 (чорнага колеру) на жанчыну, якая пераходзіла праезную частку дарогі па пешаходным пераходзе.

**Наступствы ДТЗ** – прычыненне цялесных пашкоджанняў пацярпелай.

Сведкаў прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул. Леніна, д.95, каб.№9, ці паведаміць па тэл.: 5-04-12.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай!

***А.В. Лаўрыновіч,***
*ст. следчы СА Глыбоцкага РАСК, маёр юстыцыі.*



ISSN 2077-8023



### Лепельскі раён

# Дарога памылак не даруе

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэзкія змены надвор'я прымушаюць вадзіцеляў заўсёды ездзіць асцярожна, бо расплата за дапушчаныя памылкі звычайна прыводзіць да трагедый на дарогах.**

У пачатку чарговага працоўнага дня жыхароў Лепеля моцна ўзрушыла паведамленне аб жудасным здарэнні на вуліцы Аршанская шаша ў райцэнтры. На абледзянелай трасе на сустрэчнай паласе сутыкнуўся там аўтамабіль ГАЗ-66, які вёз людзей на працу, з цяжкім грузавіком DAF з грузам для аднаго з мясцовых прадпрыемстваў. У выніку моцнага ўдару адразу загінулі два пасажыры аўтамабіля на месцы ДТЗ. Абодва кіроўцы ва ўзросце 42 і 52 гадоў і яшчэ пяцёра пасажыраў рабочых атрымалі сур'ёзныя траўмы сярэдняй і цяжкай ступені. За пацярпелымі аператыўна прыехалі чатыры брыгады ўрачоў хуткай дапамогі, на дапамогу мясцовым урачам у выратаванні людзей неўзабаве прыбылі і кваліфікаваныя медыкі са сталіцы і з абласнога цэнтра. Дваім пацярпелым пасажырам з будкі-фургона ГАЗ-66 прыйшлося зрабіць экстраную аперацыю. Па факту гэтага жудаснага інцыдэнта з гібеллю двух асоб адразу ж была распачата крымінальная справа. Каб высветліць усе абставіны гэтай аварыі і выявіць вінаватых, траса была перакрыта, і на месцы трагедыі пачала працаваць аператыўна-следчая група. Акрамя допыту сведак на сустрэчнай паласе ў горад, прыбыла адразу ж перасоўная крыміналістычная лабараторыя Дзяржкамітэта следчых экспертыз. На жаль, калі высветліцца, ці перавысіў хто з вадзіцеляў хуткасць, ці былі тэхнічна спраўныя абедзьве машыны, аднак загінулых іх сем'ям ніхто не верне. Атрыманыя раненні яшчэ вельмі доўга будуць нагадваць астатнім пацярпелым пасля іх выздараўлення аб гэтай бядзе.

### Шаркоўшчынскі раён

# Даездзіўся да турмы

■ Кастусь Александровіч

**Замест чакаемага росквіту і адраджэння беларускай вёскі на справе краіна атрымала толькі дэградацыю сельскай гаспадаркі.**

У глыбінцы зараз многія не ведаюць, як правесці веснавую сяўбу і разлічыцца са сваімі працаўнікамі па даўгах па зарплаце, а талковых работнікаў па-ранейшаму не хапае. У выніку ў Шаркаўшчынскім раёне суд за апошнія некалькі гадоў тройчы ўжо судзіў 33-гадовага механізатара аднаго з мясцовых калгасаў. У яго, як і іншых калег, была распаўсюджаная загана: надта ўжо любіў малады чалавек прыкладвацца да чаркі. У такім стане за рулём стальнога каня яго затрымалі першы раз і пакаралі буйным штрафам. Але меней чым праз год вясковы забулдыга зноў патрапіў на рабоце на трактары п'яным на вочы супрацоўнікам ДАІ, за што зноў сеў на лаву падсудных. На гэты раз яго пазбавілі ўжо правоў механізатара і пакаралі яшчэ папраўчымі работамі з забаронай кіраваць транспартнымі сродкамі. Нейкі час трактарыст з гэтым мірыўся, але да поўнай сваёй рэабілітацыі так і не дацярпеў. З-за дэфіцыта кадраў старшыня гаспадаркі папрасіў яго сесці за руль вазіць кармы, падвозіць ваду на пашу. Як на грэх, у адной з такой паездак хлопец мінулагодняй восенню зноў быў на падпітку за рулём трактара, за што моцна і паплаціўся. Па прыгавору суда трактарыста-выпівоху для адбывання пакарання направілі ўжо ў калонію на тэрмін адзін год і 3 месяцы. Яго пазбавілі правоў ужо на 5 гадоў, пазбавіўся працы кіраўнік гаспадаркі, у якой канфіскавалі і гэты трактар. Дарэчы, гэты выпадак у рэгіёне не адзінкавы, бо ў суседнім Браслаўскім раёне нядаўна сёлета супраць дырэктара гаспадаркі распачалі крымінальную справу за тое, што свядома пасадзіў за руль трактарыста-бяспраўніка, які зноў напіўся.

### Пастаўскі раён

# Паўстане другі касцёл

■ Чэслаў Якубовіч.

**Пасля паўстагоддзя ваяўнічага атэізму адраджэнне ранейшых хрысціянскіх традыцый у Беларусі набыло ранейшую моц.**

Яшчэ больш падобным на ўтульны еўрапейскі гарадок стануць неўзабаве Паставы, бо тут пачынаюць будаваць другі па ліку ў райцэнтры касцёл. Па існуючай працэдуры спачатку на працягу трох тыдняў праходзілі грамадскія абмеркаванні, ад гараджан і жыхароў раёна паступіла 14 зваротаў у падтрымку архітэктурнай планіроўкі і выбранага месца для ўзвядзення на вуліцы Касманаўтаў новага храма Езуса Міласэрнага. Падтрымаў гэту ініцыятыву вернікаў і абласны архітэктурна-горадабудаўнічы савет. Дарэчы, яшчэ спрадвеку ў гэтым прыгожым мястэчку старажытнай Вілешчыны дзейнічаў яшчэ з XVI стагоддзя драўляны касцёл Маці Божай. На супрацьлеглым беразе ракі Мядзелкі жыхары тагачасных Пастаў ішлі маліцца ў францысканскі кляштар з касцёлам і ва ўніяцкую базыльянскую царкву. Гэтыя святыні згарэлі, не захаваліся да нашых дзён, але адбудоўваліся зноў, і нават у перыяд Расійскай імперыі ў горадзе паўсталі прыгожы неагатычны касцёл і праваслаўная царква. У нашы дні колькасць каталікоў значна вырасла, і яшчэ летась Віцебская дыяцэзія вырашыла мець у горадзе два свае прыходы. У новы храм прызначаны ўжо настаяцель, ксёндз Андрэй, на ўездзе ў Паставы спачатку пабудуюць невялікую капліцу для богаслужэнняў. Побач з ёй ля дарогі паўстане потым прыгожая святыня са званіцай, будзе прыгожа таксама добраўпарадкавана тэрыторыя вакол новага храма.

# Аб самым надзённым

## ЯК ДЛЯ АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІКІ, ТАК І ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ СПАРТСМЕНАЎ ГЭТЫ ГОД БУДЗЕ САМЫМ ЦЯЖКІМ І ПРАВАЛЬНЫМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Добра вядома, што канкурэнцыя на Алімпіядах яшчэ болей вострая. На такіх стартах, да якіх прыцягнута ўвага ўсяго чалавецтва, за якімі пільна сочаць некалькі мільярдаў чалавек, прабіцца на п'едэстал гонару вельмі няпроста.**

Яшчэ не так даўно ў нашай краіне вельмі папулярным быў дэвіз "жыву ў Беларусі – і тым ганаруся", які размяшчаўся на білбордах у грамадскіх месцах. А яшчэ ў нас любілі агучваць іншы прапагандысцкі лозунг, што беларусы – спартыўная нацыя, як і сама краіна спартыўная, аб чым штогод сведчылі масавыя парады фізкультурнікаў услед за ваеннымі калонамі і парадамі айчыннай тэхнікі ў Мінску на галоўныя дзяржаўныя святы. Аднак, як хутка ўсё змянілася ў горшы бок, бо ў Беларусі зараз ужо сур'ёзны эканамічны крызіс, ідзе абвал нацыянальнай валюты, расце беспрацоўе, народ імкліва бяднее і рыхтуецца да непазбежнага павышэння пенсійнага ўзросту.

Тым часам, нашу краіну чакае крыху больш чым за паўгода чарговы экзамен, да якога рыхтаваліся некалькі гадоў – летнія Алімпійскія гульні ў сонечнай Бразіліі. Днямі мы таксама даведаліся, што "государевы люди" ў асобах кіраўнікоў спартыўнай галіны Беларусі ўжо зараз непакояцца, што самыя значныя ў гісторыі чалавецтва спаборніцтвы на арэнах Рыа-дэ-Жанэйра могуць быць самымі няўдалымі для беларускіх спартсменаў. Прэзідэнцкі памочнік па пытаннях спорту і турызму М. Рыжанкоў прама выказаўся, што мы там "можем выглядеть бледно", бо ў 28 відах спорту нашы атлеты пакуль заваявалі зусім няшмат (толькі 79) алімпійскіх ліцэнзій, што ў 1,5-2 разы меней, чым на папярэдніх Гульнях у Пекіне і Лондане.

Між тым, хоць медальны план па ўзнагародах для нашых алімпійцаў на гэты раз нібыта не агучваўся, але перад імі ставіцца задача выступіць у Бразіліі не горш, чым нашы спартсмены паказвалі вынікі на стадыёнах Кітая і Англіі. Аднак, падстаў для аптымізму няма, бо як сама айчынная эканаміка дэградуе, так і беларускі спорт раз за разам здае свае пазіцыі. Як падкрэслівалася, на нядаўняй калегіі галоўнага міністэрства ў будынку Нацыянальнага алімпійскага камітэта летась у алімпійскіх дысцыплінах беларусы змаглі заваяваць на чэмпіянатах свету толькі 12 медалёў.

Добра вядома, што канкурэнцыя на Алімпіядах яшчэ болей вострая. На такіх стартах, да якіх прыцягнута ўвага ўсяго чалавецтва, за якімі пільна сочаць некалькі мільярдаў чалавек, прабіцца на п'едэстал гонару вельмі няпроста. Ды і не можа даволі бедная краіна, як наша, дыктаваць свае ўмовы, апярэджваць іншых па спартыўнаму прынцыпу, калі на спорт высокіх дасягненняў і на масавую фізкультуру цяпер элементарна не хапае ў дзяржавы сродкаў. Скажам, у 2015 годзе з дзяржбюджэту Беларусі на спартыўную галіну было выдзелена толькі 2,9 трлн. рублёў, альбо 0,33% ВУП. Калі перавесці гэтыя грошы на цвёрдую валюту, атрымоўваецца толькі 156 млн. долараў.

Такая сума – гэта, па сутнасці, капейкі, бо такія славутыя ў свеце клубы, як "Рэал", Баварыя", Манчэстэр Юнайтэд", "Барселона" і многія іншыя маюць гадавы бюджэт значна большы, чым увесь айчынны спорт і турызм. Да таго ж трэба ўлічыць, што 80% выдзеленых сродкаў ідуць на патрэбы толькі 15 найбольш медалеёмкіх відаў, а львіную частку расходаў забірае па-ранейшаму абласканы дзяржавай хакей. З іншага боку, дзіцячыя трэнеры зарабляюць мізэрныя грошы. Яшчэ адна бяда ад існуючай беднасці: апошнім часам у Беларусі закрылася, страшна сказаць, 56 дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. На вуліцы выкінулі 35 тысяч юнакоў і дзяўчат, якія займаліся рознымі відамі спорту, а цяпер невядома куды пойдуць, можа і тыя спайсы часцей будуць курыць.

Паколькі няма масавасці, то не будзе і майстэрства, не кажучы ўжо аб разгалінавай праграме аздараўлення нацыі, дзе існуе шэраг праблем. Пакуль жа беларускія спартсмены, нашы зборныя і гульнявыя каманды болей расчароўваюць, чым радуюць. Той жа самы багаты хакейны клуб, мінскае "Дынама", праваліла чарговы сезон у КХЛ. Варта было праслаўленай біятланістцы Д.Домрачавай адмовіцца ад выступленняў зімой па стану здароўя, як адразу ў лік статыстаў скаціўся беларускі біятлон. Трывожна, што за цяперашнімі лідарамі няма дастойнай змены, бо на чэмпіянатах свету праваліліся нашы хакеісты-юніёры, а зборная маладых біятланістаў на сусветным першынстве не заваявала ніводнага медаля. Яўна здаюць у свеце свае раней моцныя пазіцыі беларускія гімнастыка, плаванне, барацьба, фехтаванне, цяжкая атлетыка, і гэты спіс можна працягваць.

Па-сутнасці, у краіне набудавалі апошнім часам толькі лядовых палацаў і ўстанавілі беларускім хакеістам мінімальную зарплату ў межах 8 млн. рублёў у месяц, але сярод іх моцных ігракоў няшмат,тон задаюць замежныя легіянеры. Проста сорам, што Беларусь не мае ў сталіцы дагэтуль нават нармальнага сучаснага нацыянальнага футбольнага стадыёна, а большасць каманд дыхаюць на ладан і бедныя, як царкоўныя мышы. У такіх умовах няма маральнага права патрабаваць ад спартсменаў выдатных дасягненняў. Добра будзе, калі хоць зрэдку яшчэ на сусветных спартыўных арэнах будзе гучаць беларускі гімн, а нашы атлеты змогуць прабіцца на п'едэстал. Праўда, такіх перамог з кожным годам будзе ўсё меней, і гэта павінны ўсе разумець.

### Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| | Чацвер 25.02.16 | | | | Пятніца 26.02.16 | | | | Субота 27.02.16 | | | | Нядзеля 28.02.16 | | | | Пан. 29.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -1 | +2 | 0 | -2 | -1 | +1 | -1 | -2 | -2 | +2 | -1 | -1 | -1 | +1 | 0 | -1 | 0 | 0 |
| Ціск | 740 | 740 | 741 | 742 | 742 | 743 | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 749 | 750 | 752 | 752 | 752 | 749 | 748 | 749 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-З | 4 З | 6 З | 5 Ю-З | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 2 З | 2 З | 2 Ю-З | 3 Ю-З | 3 Ю-З | 3 Ю-В | 4 В | 3 В | 4 С-В |
| Вільготнасць | 92 | 91 | 69 | 80 | 86 | 92 | 71 | 82 | 90 | 91 | 55 | 83 | 84 | 71 | 50 | 69 | 94 | 96 | 91 |

## Дзень за днём

**Валютная выручка Беларусі летась скарацілася на 10 мільярдаў долараў. Без уліку ранейшых дэнамінацый за адзін $ беларусы аддавалі б цяпер звыш 220 мільёнаў рублёў. З-за апусцеўшых рынкаў дзяржбюджэт Беларусі можа недалічыцца 1,1 трыльёна рублёў даходаў. Па ўсёй краіне пачаліся праверкі водагазанагравальнікаў пасля трагедыі ў Барысаве. Для беларусаў утылізацыйны збор на аўтамабілі падаражэў адразу ў 8,25 разы. Замежныя фільмы на тэлеканале "Беларусь-3" будуць паказваць на беларускай мове. У трэці раз за апошнія 4 сезоны мінскае "Дынама" не трапіла ў плей-оф чэмпіянату КХЛ па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган назваў смехатворнымі заявы Мінабароны РФ аб нібыта падрыхтоўцы турэцкай ваеннай інтэрвенцыі ў Сірыю, дзе акупантам стаў Пуцін.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што пагроза адкрытай вайны з Расіяй зараз большая, чым летась, бо РФ трымае ў Данбасе 8 тысяч сваіх ваенных, войскі на граніцы.

**Расія**. Глава Мінэканомразвіцця РФ А. Улюкаеў назваў крытычнай сітуацыю з бюджэтам краіны, прыйдзецца таму пайсці на прыватызацыю Раснафты, Аэрафлота, Растэлекома.

**Аргентына.** Карэйская карпарацыя Samsung пачала выпрабаванні на дарогах краіны сістэмы відэакамер з дысплеямі, якія дазваляюць вадзіцелям ззаду фур бачыць трасу.

**Іран.** Міністр нафты Б. Занганех пацвердзіў, што краіна будзе кожныя суткі прадаваць кліентам у Еўропе, найперш кампаніі Total, па 300 тысяч барэляў нафты.

**Турцыя.** Наўмысныя правакацыі з боку ваенных лётчыкаў Расіі, як заявіў рускі ваенны эксперт Ю. Фёдараў, падвялі абедзьве дзяржавы да небяспечнай рысы пачатку вайны.

**Расія.** Газета дзелавых колаў краіны "Взгляд" заклікала ўрад РФ пачаць актыўную інфармацыйную вайну ў Беларусі, якая нібыта можа пайсці дарогай Украіны на Захад.

**Швейцарыя.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя папярэдзіла, што небяспечны вірус Зіка з Лацінскай Амерыкі можа распаўсюдзіцца таксама ў Афрыку і Азію.

**КНДР.** Паабвінавачванню нібыта ў карупцыі пакаралі смерцю начальніка Генштаба, генерала арміі самай закрытай краіны свету Ры Йон Гіла.

**Англія.** Знакаміты амерыканскі акцёр Леанарда дзі Капрыо згадзіўся выканаць ролю У. Пуціна ў фільме студыі Knights Bridge пра чалавека, які на вяршыні сусветнай палітыкі.

**Шатландыя.** У краіне адбыўся пробны першы палёт эксперыментальнага самалёта-беспілотніка, які ў якасці паліва выкарыстаў гранулы цвёрдага вадарода.

**Англія.** На падставе дадзеных Сусветнага антыдопінгавага агенцтва IAAF забараніла выступаць на любых міжнародных спаборніцтвах 4027 расійскім лёгкаатлетам.

**ЗША.** НАК краіны прапанаваў сваім спартсменам прапусціць летнюю Алімпіяду з 5 па 21 жніўня ў Рыа-дэ-Жанэйра з-за пагрозы распаўсюджвання віруса ліхаманкі Зіко.

**Польшча.** У кнігарнях краіны і суседняй Літвы з'явіліся карты свету, на якіх Крым і частка Данбаса, Абхазія, Прыднястроўеабазначаныя, як "акупіраваныя тэрыторыі".

**Расія.** Легендарны тэлевядучы Уладзімір Малчанаў параіў усім людзям не глядзець расійскія федэральныя тэлеканалы з-за іх абсалютнай параноі і ваеннай прапаганды.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расія выдзеліла нам крэдыт, як заявіў прафесар эканомікі Б. Жэліба, каб не дапусціць дэфолт адзінага свайго саюзніка, але без крэдыту МВФ мы будзем на мялі.

**Фаніпаль.** Крызіс у Расіі негатыўна адбіўся на працы новага завода "Штадлер-Мінск" па выпуску сучасных электрычак, ён загружаны на 30-40 %, працуюць 600 чалавек з тысячы.

**Астравец.** Міністр энергетыкі Літвы Р. Масюліс пацвердзіў, што літоўцы рыхтуюцца блакіраваць пастаўкі электраэнергіі з узводзімай тут АЭС, далей у Еўропу.

**Мінск.** Фінансавы аналітык В. Іасуб папярэдзіў, што стан айчыннай банкаўскай сістэмы пагаршаецца, але рэальнай пагрозы банкротства банкаў у Беларусі пакуль няма.

**Магілёў.** Яшчэ аднаго былога дырэктара "Магілёўдрэва" А. Усава, асуджанага на 8 гадоў, датэрмінова выпусцілі з турмы і паставілі кіраваць на мясцовы завод "Строммашына".

**Брэст.** Жыхар горада схаваў і перадаў бацькам з Веткі двух маладых салдатдэсантнікаў, якія збеглі з часці, дзе іх моцна збівалі і вымагалі грошай стараслужачыя "дзяды".

**Мінск.** Выконваючы абавязкі прэс-сакратара Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў ксёндз Ю. Санько назваў вельмі важнай гістарычнай падзеяй сустрэчу Папы Францішка і Патрыярха Кірыла.

**Валожын.** Міліцыя затрымала групу махляроў, якія "кінулі " на 40 тысяч USD двух жыхароў Смаленскай вобласці РФ, якія закуплялі мяса на тэрыторыі Міншчыны.

**Мінск.** Эканаміст Л. Марголін папярэдзіў, што паборы з грамадзян (на машыны, інтэрнет) уводзяць з-за пустой дзяржказны, і таму іншыя новыя "геніяльныя" рашэнні не за гарамі.

**Мазыр.** У пагранічнай зоне з Украінай пры праверцы аўто 38-гадовага жыхара Баранавіч знайшлі і затрымалі 440 незаконна ўвезеных у Беларусь папугаяў, без дакументаў на іх.

**Жодзіна.** Адразу 9 работнікаў БелАЗа сталі фігурантамі крымінальнай справы па справе крадзяжоў па злачыннай схеме камплектуючых, запчастак і фіктыўнага збыту іх.

**Мінск.** Дырэкцыя кінастудыі "Беларусьфільм" паведаміла аб сур'ёзнай рэарганізацыі ўстановы і звальненні яшчэ 150 супрацоўнікаў, ужо ліквідаваны поўнасцю "Белвідэацэнтр".

**Ліда.** Моцны паток паводкавых вод і крыгаход разбурыў днём у вёсцы Мацевічы драўляны мост праз раку Нёман працягласцю 72 метры, пабudаваны 4 гады назад.

**Лунінец.** Міліцыя затрымала групу з чатырох рабаўнікоў, якія каля 4-х гадзін раніцы ў вёсцы Бастынь залезлі ў дом пенсіянеркі праз акно і вымагалі з касой у старой грошы.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер Н. Качанава паведаміла, што на працяг будаўніцтва будынка РНПЦ спорту няма сродкаў, раней заявіла, што медыкі "як працуюць, так і зарабляюць".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Грошы толькі новага ўзору будуць выдавацца ў беларускіх банкаматах з 1 кастрычніка




■ belta.by

**Грошы толькі новага ўзору будуць выдавацца ў беларускіх банкаматах з 1 кастрычніка 2016 года. Пра гэта сказана ў растлумачэнні Нацыянальнага банка аб арганізацыі працы па аперацыях з карткамі, падрыхтаваным у сувязі з маючай адбыцца дэнамінацыяй, паведамляе БЕЛТА.**

«З 1 кастрычніка 2016 года банкі выдаюць у праграмна-тэхнічнай інфраструктуры (банкаматах, інфакіёсках. - Заўвага. БЕЛТА) толькі грашовыя знакі ўзору 2009 года. У выпадку наяўнасці тэхнічнай і арганізацыйнай магчымасці банкі прымаюць у праграмна-тэхнічнай інфраструктуры грашовыя знакі ўзору 2000 года і грашовыя знакі ўзору 2009 г. адначасова па 31 снежня ўключна», - гаворыцца ў паведамленні. У выпадку адсутнасці тэхнічнай магчымасці банк самастойна прымае рашэнне аб прыёме ў банкаматах з 1 ліпеня 2016 года грашовых знакаў узору 2009 года. У паведамленні таксама адзначаецца, што банкі павінны інфармаваць кліентаў аб тым, з якімі грашовымі знакамі кліент зможа здзяйсняць аперацыі ў тым ці іншым банкамаце ці інфакіёску. Інфармацыя павінна быць размешчана непасрэдна ў месцы аказання паслугі. Па дадзеных Асацыяцыі беларускіх банкаў, карт-чэкі з 1 ліпеня бягучага года павінны ўключаць новы літарны BYN код валюты. «Рэкамендуецца таксама пры выдачы пасля 1 ліпеня 2016 года ў банкаматах грашовых знакаў узору 2000 года ўказваць адпаведную інфармацыю ў карт-чэках - у поле для даведачнай або рэкламнай інфармацыі)», - сказана ў паведамленні. Рашэнне аб правядзенні дэнамінацыі афіцыйнай грашовай адзінкі з 1 ліпеня 2016 года замацавана ўказам ад 4 лістапада №450. Дэнамінацыя будзе праведзена шляхам замены якія знаходзяцца ў звароце банкнот ўзору 2000 года на банкноты і манеты ўзору 2009 года ў суадносінах 10 000 да 1 беларускага рубля. Абмяняць старыя грашовыя знакі на новыя можна будзе з 1 студзеня 2017 года па 31 снежня 2019 года ўключна ў Нацыянальным банку, банках і нябанкаўскіх крэдытнафінансавых арганізацыях Беларусі. З 1 студзеня 2020 года па 31 снежня 2021-га ўключна старыя грошы на новыя можна будзе абмяняць толькі ў Нацыянальным банку. З 1 студзеня 2022 года грашовыя знакі ўзору 2000 года будуць лічыцца несапраўднымі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З сямі ранейшых разліковых цэнтраў ЖКГ створаць адзін, з другога паўгоддзя ён будзе налічваць плацяжы за камунальныя паслугі па ўсёй Віцебскай вобласці.

**Полацк.** Старшыня ТБМ А. Трусаў прапанаваў перанесці сюды сталіцу Беларусі з цеснага мегаполіса, як гэта зрабілі Казахстан і Бразілія, аб'яднаць яе ў адзін горад з Наваполацкам.

**Мёры.** Пробы пацвердзілі, што ў раёне загінула 27% азімага рапсу, пасеянага на плошчы 415 гектараў, а вось іншыя азімыя культуры з пасеяных 8758 га адчуваюць сябе нармальна

**Верхнядзвінск.** У ліку 8 прадпрыемстваў вобласці на продаж дзяржава выставіла поўнасцю дзяржпакет акцый ААТ завод "Інвет" з пасёлка Бігосава на мяжы з Латвіяй.

**Наваполацк.** Побач з горадам у пасёлку Міжрэчча ўрачыста адкрылі новы студэнцкі гарадок Полацкага дзяржуніверсітэта з 4-мя карпусамі юрфака і спортпедфакультэта.

**Ушачы.** У Дзяржаўную інвестыцыйную праграму на 2016 год уключылі заканчэнне ўзвядзення ў райцэнтры сёлета ФАКа "Юнацтва" з плавальным басейнам.

**Полацк.** З-за недахопу заказаў многіх работнікаў мясцовага будтрэста №22 пасля Новага года адправілі ў адпачынкі за "свой кошт", прастоі і ў іншых будаганізацый вобласці.

**Крулеўшчына.** Часовы паверналы ў справах Польшчы М. Хабрус узнагародзіў медалём "Pro Memoria" мясцовага ксяндза Ю. Бараўнёва за аднаўленне магілак польскіх салдат.

**Паставы.** Абласны архітэктурнагорадабудаўнічы савет зацвердзіў вынікі грамадскіх абмеркаванняў і планіроўку пабудовы ў райцэнтры другога касцёла Езуса Міласэрнага.

**Лепель.** У райбальніцу з апёкамі цела даставілі 75-гадовага пенсіянера, які быў у гасцях у вёсцы Стараселле і атрымаў траўмы падчас узнікшага ў доме днём пажару.

**Верхнядзвінск.** Супрацы бацькі з сынам з вёскі Выдрыцкія распачалі крымінальную справу па факту незаконнай перавозкі дамоў збітага ў ДТЗ лася, канфіскавана іх аўто.

**Глыбокае.** Адразу трое выхаванцаў мясцовай ДЮСШ М. Завадская, А. Катушонак і Г. Стадольнік (трэнер С. Сімановіч) сталі чэмпіёнамі вобласці па цяжкай атлетыцы.

**Віцебск.** Ураджэнца горада, 34-гадовага акцёра сталічнага тэатра імя Я. Купалы Арцёма Барадзіча, затрымалі за захоўванне і збыт марыхуаны, яму пагражае ад 5 да 8 гадоў турмы.

**Браслаў.** У рэанімацыю райбальніцы даставілі вадзіцеля джыпа "Гранд Чэрокі", які на перыкрыжаванні дарог у вёсцы Рубеж не справіўся з кіраваннем і перакуліўся ў кювеце.

**Орша.** Выхаванка мясцовай ДЮСШ Аліна Талай выдатна пачала сезон і перамагла на трох міжнародных турнірах у бегу на 60 метраў з бар'ерамі ў Аўстрыі, Германіі, Польшчы

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Стрэс уваходзіць у наш дзень са званком будзільніка

**Паслабленне з'яўляецца лепшым спосабам барацьбы са стрэсам**

■ **С.В.Скіпар,**
*галоўны дзяржсанурач Глыбоцкага раёна*

Стрэс…Кожны з нас сустракаецца з ім штодня. Ён уваходзіць у наш дзень са званком будзільніка. Сустракае нас у перапоўненым аўтобусе. Суправаджае на вытворчых нарадах. Становіцца чыннікам неразумення паміж роднымі, блізкімі і знаёмымі. Не дае жыцця нават у пасцелі, патрабуючы аналізу, адзнакі і чарговага пракручвання падзей мінулага дня. А заўтра ўсё зноў спачатку…

На сённяшні дзень адным з самых неспрыяльных наступстваў напружанага рытму жыцця ў нашым грамадстве з'яўляецца ўзрастанне стрэсавых нагрузак іператамленне. На жаль, стрэс стаў нормай жыцця большасці з нас. Сёння мала хто можа пахваліцца ўстойлівасцю псіхікі, адсутнасцю адмоўных эмоцый і стабільным самавалоданнем. Страта душэўнай раўнавагі, пачуццё трывогі, нуды, нездаволенасць сабой і сваім жыццём, зніжэнне працаздольнасці добра вядома шматлікім. Стрэсавыя сітуацыі вядуць да развіцця псіхозаў і неўрозаў.

Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя 65% усіх хвароб прычынна звязаныя са стрэсам, прычым, некаторыя спецыялісты лічаць, што ў рэальнасці гэта лічба некалькі большая.

Зменшаючы ўзровень стрэсу, мы памяншаем рызыку ўзнікнення шматлікіх захворванняў, у тым ліку сардэчна-сасудзістых, нервовай сістэмы, развіцця злаякасных наваўтварэнняў, вызваляем сябе ад дрэннага самаадчування, раздражняльнасці, галаўных боляў, бессані і іншых негатыўных станаў.

Стрэс выклікае агульную напругу, таму паслабленне з'яўляецца лепшым спосабам барацьбы са стрэсам. Ніжэй прыведзены правілы "антыстрэсавых" паводзін, пазбягаючы нават некаторых з іх, можна забяспечыць сабе вялікую жыццёвую устойлівасць:



- рыхтуйцеся да раніцы загадзя, увечары: прыгатуйце адзенне, складзіце дзелавыя паперы ў партфель і г.д. Спакойная, арганізаваная раніца памяншае непрыемнасці дня;
- не спадзявайцеся на сваю памяць, завядзіце штодзённік, у які запісвайце усе прызначаныя сустрэчы і справы. Так Вы пазбегнеце ўвесь час пачуцця, якое турбуе, што штосьці забыліся зрабіць;
- адкладванне спраў на заўтра з'яўляецца стрэсавым фактарам. Не адкладайце на заўтра тое, што трэба зрабіць сёння!;
- не пагаджайцеся з тым, што дрэнна працуе. Калі будзільнік, тэлефон, дзвярны замок – крыніца сталага ранішняга раздражнення, то ці папраўце, ці купіце новыя!;
- прыслабце вашы стандарты. Будзьце больш гнуткімі. Дасканаласць не заўсёды дасягальная, а калі нават дасягальная, то яна не заўсёды гэтага вартая;
- лічыце вашы поспехі. На кожную сённяшнюю няўдачу, магчыма, знойдзецца дзесяць ці больш выпадкаў, калі вам пашанцавала! Падумайце пра іх! Успаміны аб добрым могуць паменшыць вашае раздражненне ў выпадку, калі штосьці адбываецца не так, як вы планавалі;
- падчас працы перыядычна хадзіце, рабіце пацягванні, нахілы тулава. Не знаходзьцеся ўвесь час у адным і тым жа становішчы;
- высыпайцеся!;
- стварыце з хаосу парадак – дома, на працоўным месцы арганізуйце ўсё так, каб усё неабходнае заўсёды можна было лёгка знайсці. І тады не трэба будзе ў паніцы адшукваць патрэбную рэч і падвяргацца стрэсу;
- зрабіце што-небудзь для паляпшэння свайго вонкавага выгляду. Калі будзеце выглядаць лепш, то гэта прымусіць вас і адчуваць лепш. Стаўцеся да сябе добра!;
- рабіце выхадныя дні як мага больш разнастайнымі! Выкарыстоўвайце іх для адпачынку, сустрэч з сябрамі, шпацыраў;
- навучыцеся правільна дыхаць – глыбока і рытмічна. Пры стрэсе людзі дыхаюць хутка і павярхоўна. Гэта прыводзіць да мышачнай напругі з прычыны недахопу кіслароду тканінам. Паслабце мышцы і зрабіце некалькі глыбокіх удыхаў і выдыхаў, калі зразумелі, што гэта здарылася з вамі;
- даруйце і забывайце. Не жальцеся, не бурчыце, не рабіце нездаволенасці іншымі. Прыміце той факт, што людзі вакол вас і свет, у якім мы жывём, недасканалы.

Жывіце ў гармоніі з сабой і з навакольным светам!

Цешцеся кожнаму дню, любому надвор'ю! Беражыце сябе і сваё здароўе!

# Дадатковыя цягнікі будуць курсіраваць па Беларускай чыгунцы 5-9 сакавіка



**Беларуская чыгунка прызначыла 5-9 сакавіка больш за 20 дадатковых цягнікоў для перавозак пасажыраў у межах рэспублікі.**

У сувязі з тым, што святочны дзень 8 сакавіка выпаў сёлета на аўторак, а працоўны дзень з панядзелка 7 сакавіка перанесены на суботу 5 сакавіка, утварыліся доўгія выхадныя.

Як паведамляе прэс-служба БЧ, дадатковыя цягнікі будуць курсіраваць 5 сакавіка па наступных напрамках: №709 Гомель – Мінск; №710 Мінск – Гомель; №638 Мінск – Гомель; №637 Гомель – Мінск; № 641 Мінск – Брэст; №642 Брэст –Мінск; №655 Мінск – Брэст; № 656 Брэст – Мінск; №694 Мінск –Гомель; № 672 Мінск – Гомель; №635 Мінск – Пінск.

На 6 сакавіка прызначаны дадатковыя цягнікі: №636 Пінск – Мінск; №671 Гомель – Мінск.

На 7 сакавіка прызначаны дадатковыя цягнік №640 Баранавічы – Калінкавічы.

На 8 сакавіка прызначаны цягнікі №639 Калінкавічы – Баранавічы; №709 Гомель – Мінск; №710 Мінск – Гомель; №713 Віцебск – Мінск; №714 Мінск – Віцебск; №712 Брэст – Мінск; №711 Мінск – Брэст.

На 9 сакавіка прызначаны дадатковыя цягнікі: №703 Віцебск – Мінск; №704 Мінск – Віцебск.

Больш падрабязную інфармацыю пра час адпраўлення прызначаных дадатковых цягнікоў можна атрымаць на сайце www.rw.by, а таксама ў чыгуначных касах або па тэлефонах даведачных службаў.

Таксама ў Мінску ў сувязі са святочным днём 8 сакавіка змяняецца графік працы міжгародніх маршрутаў, паведаміла дзяржаўнае прадпрыемства "Мінсктранс".

Аўтобусы па міжгародніх маршрутах, якія абслугоўваюцца ДУП "Мінсктранс", 4 сакавіка будуць працаваць па графіку чацвярга, 5 сакавіка – пятніцы, 6 сакавіка – суботы, 7 сакавіка – серады, 8 сакавіка – па графіку нядзельных дзён.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Павел Латушка: Беларуская мова з'яўляецца адной з самых мілагучных і прыгожых моў свету

**Беларуская мова з'яўляецца адной з самых мілагучных і прыгожых моў свету, адзначыў пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка, адказваючы на пытанні СМІ з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы, які адзначылі ў свеце 21 лютага.**

*"Важна, каб у гэты дзень мы помнілі пра нашых продкаў, дзякуючы якім нам перададзена родная беларуская мова, якая з'яўляецца адной з самых мілагучных і прыгожых моў свету, перад якой мы сёння нясём адказнасць захаваць яе для нашых нашчадкаў"*, – цытуе беларуская дыпламата пасольства Беларусі ў Францыі.

*"Мы павінны таксама адзначыць, што беларуская мова, як і культура, ніколі не супрацьпастаўлялі сябе іншым мовам і культурам, а з`яўляліся і з`яўляюцца часткай агульнаеўрапейскай, агульнасусветнай, як спадчынай, так сучаснасцю і, зразумела, будучыняй"*, – адзначыў Павел Латушка.

Ён нагадаў, што галоўнай мэтаў абвяшчэння ў 1999 годзе ЮНЕСКА Міжнароднага дня роднай мовы *"была пазначана неабходнасць дзейнічаць у інтарэсах культурнай разнастайнасці і шматмоўя"*.




Паводле яго слоў, пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ЮНЕСКА таксама прыме ўдзел у святкаванні, якое адбудзецца ў штаб-кватэры арганізацыі. Так, 22 лютага прайшло тэматычнае мерапрыемства, у якім брала ўдзел кіраўніцтва ЮНЕСКА, супрацоўнікаў сакратарыята арганізацыі, замежных паслоў, прадстаўнікоў дзяржаўных установаў і недзяржаўных грамадскіх арганізацый.

*"У рамках гэтага мерапрыемства адбылося выступленне пастаяннага прадстаўніка Бангладэш ў ЮНЕСКА. Адбылося абмеркаванне сучаснага стану захавання і развіцця моўнай разнастайнасці ў свеце і падыходаў ЮНЕСКА да гэтага важнага пытання"*, – сказаў беларускі дыпламат.

Міжнародны дзень роднай мовы (International Mother Language Day) быў абвешчаны Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКА 17 лістапада 1999 года. Упершыню яго святкаванне адбылося ў 2000 годзе. Гэта дата была выбрана ЮНЕСКА ў знак памяці па падзей, якія адбыліся ў горадзе Дакка (зараз сталіца Бангладэш) 21 лютага 1952 года. У гэты дзень да куль паліцэйскіх загінулі студэнты, якія выйшлі на дэманстрацыю, каб абараніць сваю родную мову, якую яны патрабавалі прызнаць адной з дзяржаўных моў краіны.

*Андрэй Серада, БелаПАН.*

# Тарыфная стаўка першага разраду павышана ў Беларусі да Br295 тыс.

Тарыфная стаўка першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, што атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, павышана ў Беларусі да Br295 тыс. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў ад 20 лютага 2016 года нумар 146, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада.

Дакументам з 1 студзеня 2016 года ўстаноўлена тарыфная стаўка першага разраду ў памеры Br295 тыс. Пастановай таксама прадугледжана, што з 1 лютага 2016 года будуць дзейнічаць штомесячныя дыферэнцыраваныя даплаты работнікам бюджэтных арганізацый, якія тарыфікуюцца 1-17 разрадамі, у памерах Br86-75 тыс.

Міністэрству працы і сацыяльнай абароны даручана ўстанавіць памеры штомесячных дыферэнцыраваных даплат.

Рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, кіраўнікі бюджэтных арганізацый павінны забяспечыць пераразлік заработнай платы работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай гэтай пастановай тарыфнай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў з улікам карэкціруючых каэфіцыентаў і штомесячных дыферэнцыраваных даплат.

Гэта пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання і распаўсюджвае сваё дзеянне на адносіны, якія ўзніклі з 1 студзеня 2016 года.

*Юлія Огнева - БЕЛТА*

# З 24 па 28 лютага 2016г. на тэрыторыі раёна праводзяцца мерапрыемствы "БЫТ"

**А.І.Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Прафілактыка асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-бытавых адносін на сённяшні дзень адно з асноўных кірункаў дзейнасці органаў унутраных спраў. Крымінальным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадугледжана шэраг артыкулаў крымінальнага кодэкса, дзеянне якіх у асобных выпадках распаўсюджваецца на грамадзян, якія здзяйсняюць злачынствы ў быту:

**Артыкул 153. Наўмыснае прычыненне лёгкага цялесната пашкоджання.**

Наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, гэта значыць, пашкоджання, якое пацягнула за сабой кароткачасовую страту здароўя або нязначную ўстойлівую страту працаздольнасці, -

● караецца грамадскімі працамі, ці штрафам, ці выпраўленчымі працамі на тэрмін да аднаго года, ці арыштам на тэрмін да трох месяцаў.

**Артыкул 154. Катаванне.**

**1.** Наўмыснае прычыненне працяглага болю ці пакут спосабамі, якія выклікаюць асаблівыя фізічныя і псіхічныя пакуты пацярпелага, або сістэматычнае нанясенне збіцця, якія не пацягнулі наступстваў, прадугледжаных артыкуламі 147 (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання) і 149 (наўмыснае прычыненне меней цяжкага цялеснага пашкоджання) дадзенага Кодэкса, (катаванне)-

● караюцца арыштам на тэрмін да трох месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў, ці пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

**2.** Катаванне, здзейсненае ў адносінах загадзя для вінаватага цяжарнай жанчыны, або непаўналетняга, або асобы, якая знаходзілася ў бездапаможным стане ці ў залежным становішчы, -

● караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад аднаго года да трох гадоў ці пазбаўленнем волі на тэрмін ад аднаго года да пяці гадоў.

**Артыкул 186. Пагроза забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў ці знішчэннем маёмасці.**

Пагроза забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў ці знішчэннем маёмасці агульнанебяспечным спосабам, калі меліся падставы асцерагацца яе ажыццяўлення, -

● караецца штрафам, ці выпраўленчымі працамі на тэрмін да аднаго года, ці арыштам на тэрмін да шасці месяцаў.

Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь таксама прадугледжаная адказнасць за правапарушэнні ў быту:

**Артыкул 9.1. Наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання.**

**ч.1** наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання, якое не пацягнула за сабой кароткачасовай страты здароўя ці нязначнай устойлівай страты працаздольнасці, -

● цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

**ч.2** нанясенне збіцця, якое не пацягнула прычынення цялесных пашкоджанняў, наўмыснае прычыненне болю, фізічных ці псіхічных пакут, здзейсненыя ў адносінах блізкага сваяка або члена сям'і, калі ў гэтых дзеяннях няма саставу злачынстваў.

●цягне накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

**Артыкул 17.1. Дробнае хуліганства.**

Нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, абразлівае чаплянне да грамадзян і іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый ці спакой грамадзян і якія выяўляюцца ў відавочнай непавазе да грамадства, -

● цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзвюх да трыццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

За ўсе пералічаныя злачынствы і правапарушэнні, прадугледжаны сур'ёзныя меры крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці, таму заўсёды варта падумаць, перш чым здзяйсняць супрацьпраўны ўчынак. За 2015 і пачатак 2016 года здзейснена ў сферы сямейна-бытавых адносін 17 злачынстваў, з іх 4 катаванні, 6 пагроз забойствам, 2 прычыненні меней цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 1 прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Паважаныя суграмадзяне, **з 24 па 28 лютага 2016г.** на тэрыторыі раёна праводзяцца мерапрыемствы па папярэджанні злачынстваў і правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін "**БЫТ**", калі Вам не абыякавыя здароўе і лёсы вашых блізкіх, на Вашых вачах адбываюцца п'яныя дэбошы са збіваннямі і пагрозамі, або Вы самі сталі ахвярай гвалту і беззаконня і па ўсіх гэтых выпадках. Вы можаце ананімна звярнуцца ў аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама, на кругласутачную "гарачую лінію", па тэлефоне: 2-27-02, МТС 597-21-74, Велком 314-89-02 ці 102.



# Ці можна знайсці такую мову, якая б пацярпела столькі пакут



Людміла Ардынская
*а/г Радзюкі.*

*"Ды калі ты не бязродны сын,*
*Гавары са мной па-беларуску".*
*Яўгенія Янішчыц*

Штогод грамадскасць свету адзначае 21 лютага як Міжнародны дзень роднай мовы. Родная мова кожнай нацыі з'яўляецца асноўным фактарам захавання незалежнасці краіны. Гэта дата невыпадковая. Менавіта 21 лютага 1952 года пакістанскай паліцыяй былі разагнаныя ўдзельнікі студэнцкіх выступаў за абарону мовы бенгалі. У Дацы, сталіцы Бангладэш, ёсць помнік пакутнікам у гонар загінулых абаронцаў роднай мовы. Па рашэнні Міжнароднай арганізацыі ЮНЭСКА дзень 21 лютага стаў адзначацца на ўсіх кантынентах як дзень падтрымкі і абароны на правa існавання кожнай нацыянальнай мовы.

На падставе статыстычных дадзеных гэтай установы ААН па пытаннях адукацыі, навукі, культуры беларуская мова ўнесена ў спіс знікальных моў. Не хочацца верыць, што гэта можа здарыцца са старажытнай, тысячагадовай беларускай мовай, на якой вяла асветніцкую дзейнасць Еўфрасіння Полацкая, друкаваў святыя словы Францыск Скарына, пісаў вершы Сімяон Полацкі. Яна была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага, трох Статутаў ВКЛ. Яе годнасць адстойвалі пісьменнік, адвакат, абаронца сялян Францішак Багушэвіч, патрыёт сваёй зямлі Кастусь Каліноўскі. Яе ўзнімалі з дзірвану Янка Купала і Якуб Колас, паказаў прыгажосць, замілаваны ёю Максім Багдановіч.

Наўрад ці можна знайсці такую мову, якая б пацярпела столькі пакут, колькі мова беларускага народа падчас паланізацыі з канца XVII стагоддзя ў Рэчы Паспалітай, потым русіфікацыі ў Расійскай імперыі. Гэта – забарона на карыстанне беларускай мовай як афіцыйнай, друкаванне мастацкай літаратуры, перыядычных выданняў. Пагарда і знявага з боку ўлады той краіны, у склад якой уваходзілі этнічныя беларускія землі ў пэўны гістарычны перыяд, і так некалькі стагоддзяў.

*"Цябе абзывалі "мужыцкаю мовай",*
*А нам жа ты матчынай мовай была".*
*(Алесь Бачыла)*

Здавалася б, на поўныя грудзі задыхала мова, як адбылося ўтварэнне БССР. Сапраўды, пачала адраджацца беларуская культура, мова і літаратура, узбагачацца новымі імёнамі навукоўцаў, пісьменнікаў. Але ў моўнай палітыцы СССР быў узяты курс на пашырэнне адной мовы




– мовы нацыянальных зносін – рускай. Як піша навуковы супрацоўнік Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі Алена Анісім, у 20-я гады XX стагоддзя "адбылося вынішчэнне творчай інтэлігенцыі("адэптаў роднай мовы") іператварэнне беларускай мовы "са знаку бядоты ў знак беды").

Пройдзе доўгіх семдзясят гадоў, у 1991 годзе ў Беларусі ў гарадах не існавала ўжо школ з беларускай мовай навучання, вышэйшыя навучальныя ўстановы функцыянавалі выключна на рускай мове, - канстатуе факты навукоўца. Толькі 15% школьнікаў у агульнаадукацыйных школах навучаюцца на роднай мове цяпер. Няма цалкам беларускамоўнага канала на дзяржаўным тэлебачанні. Мясцовыя рэгіянальныя газеты не вытрымліваюць раўнавагу нават 50% на 50%, большасць з іх – рускамоўныя. Мастацкая літаратура нават у сельскай мясцовасці на роднай мове слаба прапагандуецца, або зусім не прапануецца ў бібліятэках. Крыху больш ужываецца родная мова ў культурных мерапрыемствах.

Хочацца адзначыць, што родная мова трымаецца на энтузіястах, творчых асобах, аматарах роднага слова. Яны пішуць вершы, выдаюць за ўласныя сродкі паэтычныя зборнікі, з краязнаўчай тэматыкай. Кнігі раздорваюцца, бо ўстановы культуры іх не купяць з-за адсутнасці сродкаў. Родная мова, як культурная спадчына, не застаецца па-за ўвагай людзей, якія разумеюць яе значнасць, яе ролю ў захаванні нацыі. Нядаўна да аматараў роднага слова Шаркоўшчынскага раёна звярнуўся наш зямляк, выкладчык Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта Віктар Хаданёнак, які стварае "Слоўнік мясцовых гаворак Дзісеншчыны". Адгукнуліся Язэп Квач, былы настаўнік, Надзея Вайцюль, загадчыца Дома фальклору (в. Каўшэлева), былы настаўнік Іван Мядзелец і я, аўтар гэтага допісу. Для складання слоўніка мы разам сабралі да пяцісот слоў з мясцовага лексікону (дыялектызмы, састарэлыя словы). Беражыце і шануйце родную мову, пра яе праўдзіва напісаў паэт.

*"Ніколі ніхто мне цябе не заменіць,*
*Бо ты, як і маці, на свеце адна".*
*(Алесь Бачыла)*

**Яна – мая**

Ніколі я не зразумею тых,
Якія мовы адракліся, не прызналі,
Вясковай, непрыстыжнаю назвалі,
Сказалі, што нязвыкла рэжа слых.
Забыліся, што продак размаўляў
Вось на такой, а не на іншай мове?
Скарына друкаваў святыя словы,
На ёй Статут Вялікакняскі існаваў.
Ніколі роднай мовы не зракуся.
Яна – мая: у звоне ручая,
У пошуме лясоў, у фарбах лугаў.
Зрадні мне: беларускаю завуся.

***

**Залатая скарбніца**

Мілагучна – ласкава – лагодная,
Наша скарбніца залатая!
Самабытная, сціпла-пяшчотная.
Ганарымся табой, зберагаем.
Трапяткая і светлая, шчырая,
Ты – душы і народа аснова.
Табе рады, як птушачцы з выраю,
Наша родная матчына мова.

***

**Помнік у гонар беларускай мовы**

Які ў гонар твой паставяць помнік
"Самаадданая да самазабыцця,
Ахвярная, пакутлівая мова",
Ласкава-сціплая, пяшчотная мая?
Ці будзе сумнаю калінаю пахілай
Каля вясновае вірлівае ракі?
Ці птушкай, у якой звязалі крылы,
Забаранілі песні на вякі?
Ці крыжам на зямлі яна паўстане,
Што па жыцці Мацей нёс Бурачок?
Ці зоркай сіняю на золку прад світаннем
Паэту, што асвечвае радок?
У помніку хай птушкаю лунае,
Крылатай, спеўнаю над вольнаю зямлёй!
У каго Мацея крыж, хай акрыляе.
Народны, вечны помнік будзе той.

# Забарона на лоўлю шчупака ўводзіцца ў Беларусі з 1 сакавіка

Забарона на лоўлю шчупака ўводзіцца ў Беларусі з 1 сакавіка, паведамілі БЕЛТА ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У перыяд з 1 сакавіка па 15 красавіка ў адпаведнасці з пунктам 107 Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства вылаў шчупака звычайнага забаронены. **У Віцебскай вобласці забарона будзе дзейнічаць з 9 сакавіка па 25 красавіка.** Шчупак па тэрмінах нерасту апярэджвае ўсіх вясенне-нерастуючых рыб, адкладае ікру ў сакавіку-красавіку пры тэмпературы вады плюс 4-6 градусаў. Нераст шчупака пачынаецца адразу ж пасля раставання лёду і адбываецца на невялікіх глыбінях у прыбярэжнай зоне вадаёмаў, а таксама на пойме рэк і ручаёў. Пры гэтым такі від становіцца безабаронным перад чалавекам. Кантроль з боку прыродаахоўных органаў за выкананнем забароны забяспечвае ахову гэтага віду рыб і яго эфектыўнае размнажэнне.

***blr.belta.by***



